



Анатоль Літвіновіч

# З ВОСТРЫМ СЛОВАМ МІЖ БРАТАМІ

У апошні час беларускія і рускія даследчыкі (гісторыкі, этнолагі, мастацтвазнаўцы, мовазнаўцы і інш.) усё часцей звяртаюцца да беларуска-рускіх узаемаадносін перыяду сярэднявечча. Працы іх прысвечаны адлюстраванню тых або іншых аспектаў беларуск-расійскіх узаемадачыненняў, у тым ліку ў галіне фальклору. Фактычна і ў нашым артыкуле мы звяртаемся да гэтага ж перыяду, бо большасць прыказак і прымавак, якія нас цікавяць, узніклі ў эпоху позняга сярэднявечча. Калі з тэрмінамі "маскаль", "маскавіт", "масквіцянін", "масква" усё зразумела, то з найменнямі "ліцвін", "літовец", "літоўчык", "ліцвяк", "літва" не ўсё так проста, як можа здацца на першы погляд. Калі большасць беларускіх даследчыкаў пад згаданымі вышэй этнонімамі ў апошнім выпадку пераважна разумеюць продкаў сучасных беларусаў і ўсходніх літоўцаў, а таксама этнічныя беларускія землі ( і частку літоўскіх), то бальшыня рускіх аўтараў (або іх значная частка), наадварот, - толькі продкаў цяперашніх літоўцаў і Літву ў сучасным разуменні гэтага слова. Што ўкладвалі ў тэрміны "ліцвін", "літовец", "літва" у перыяд сярэднявечча, дапамагаюць зразумыець не толькі летапісныя, літаратурныя, гістарычныя крыніцы, але і фальклорныя творы, выразы. Дзіўна, але факт, у ніводным рускім фальклёрным творы мы не знайшлі найменняў "беларусы" або "беларусцы", пад якімі б выступалі нашы продкі. Нездарма ж рускі этнограф С. Максімаў у "Живописной России" (1882) пісаў, што "назва "беларус – штучная, кніжная і афіцыйная. Самі сябе патомкі крывічоў пад гэтым імем не ведаюць". На думку некаторых вучоных, у прыватнасці, В. Пануцэвіча, "ліцвін", "літовец", "літва" былі не толькі нашымі гістарычнымі, але і нацыянальна-этнічнымі найменнямі. Чаму гэтыя назовы трывала і на доўгі час прымацаваліся да нашай этнічнай тэрыторыі і яе карэнных жыхароў, заслуга нашых продкаў. Менавіта яны з'яўляліся заснавальнікамі і гаспадарамі Вялікага княства Літоўскага. Што мы ўкладваем у назвы "ліцвін", "літовец", "літва", а таксама, як адлюстраваўся вобраз суседняга народа ў фальклоры (парэміяграфічныя матэрыялы) блізкага, але ўсё ж іншага этнасу, чытач даведаецца з гэтага артыкула.

Беларусы і рускія маюць шэраг супольных рыс у сваёй духоўнай і матэрыяльнай культуры, агульныя моманты ў гістарычным мінулым, аднак гэта ў многім розныя народы (адрозніваюцца яны сваёй антрапалогіяй, генафондам, тэмпераментам, здольнасцямі, характарам, менталітэтам, многімі з'явамі традыцыйнай народнай і прафесійнаі культуры. Болей за тое, адносяцца да розных цывілізацый: беларусы да еўрапейскай, руская-еўразійскай).

Нас цікавіць праблема мастацкага адлюстравання ў фальклоры беларусаў і расійцаў іх узаемных этнічных стэрэатыпаў.

Большасць (або значная частка) беларускіх і рускіх прыказак і прымавак, у якіх узаемна характарызуюцца іх стэрэатыпы, узнікла ў перыяд сярэднявечча.

Беларусы, як вядома, у XI-XУ ст.ст. называліся "русінамі", "рускікі", "рускімі" (праўда, у XIУ-XУ стст. насельніцтва заходняй часткі Беларусі насіла назву ліцьвіны), у XУI-XУIII стст. найменне **ліцьвіны** распаўсюджваецца на ўвесь дэмаграфічны масіў ВКЛ (датычыць яно ў асноўным беларусаў). Паняцце **ліцьвіны** было таксама і саманазвай нашых продкаў. Калі ў XIУ-XУ ст. ст. ліцьвінамі называлі сябе пераважна жыхары заходніх зямель Беларусі, то пазней (асабліва з другой паловы XУI ст.) - усе насельнікі-беларусы (каталікі, уніяты, пратэстанты, часта праваслаўныя) і нават часам прадстаўнікі некарэннага этнасу.

Што тычыцца наймення "Белая Русь", "беларусцы", "беларусы" у адносінах нашай зямлі і нашых продкаў, то спачатку яно, напр., у другой палове XУI-XУII ст. ст., верагодна, мела не столькі этнічнае, колькі канфесійнае значэнне і адносілася не толькі да продкаў праваслаўнага веравызнання сучасных пераважна ўсходніх беларусаў, але і праваслаўных продкаў цяперашніх украінцаў (напр., казаччыны). І куды пазней (канец XIX – пачатак XX ст. ст.) гэта найменне пачало набываць этнічны сэнс і замацоўвацца за беларускай этнічнай тэрыторыяй (А. Белы).

Продкі цяперашніх беларусаў называлі продкаў сучасных рускіх, напрыклад, у XУ –XУII стст. маскалямі, маскавітамі, масквіцянамі, масквой. Заўважым, у згаданы вышэй перыяд Маскоўская дзяржава ў заходнеэўрапейскіх гістарычных крыніцах нярэдка называлася Белай Руссю. Верагодна, з XУI-XУII ст. ст. паходзіць адна з мянушак, якая ўжывалася ў адносінах рускіх – "кацапы". Акрамя таго, у мінулыя стагоддзі беларусы і украінцы лаялі і дражнілі рускіх яшчэ бурлакамі, філіпонамі, ліпаванамі.

Пра тое, што рускія, украінцы, палякі і немцы называлі нашых продкаў літвой і ліцвінамі яшчэ з часоў сярэднявечча сведчаць не толькі гістарычныя, летапісныя і літаратурныя крыніцы, але моўныя і фальклорныя творы гэтых народаў, узнікненне якіх адносіцца, мажліва, да XIII-XУII ст. ст.

Так, напр., у рускай мове, а таксама вуснай паэтычнай творчасці з даўніх часоў вядомы выразы "Литва поганая", "Литва некрещенная", "Литва безбожная", "Литва беззаконная", якія адносіліся не толькі да продкаў сучасных паўднёва-усходніх і ўсходніх літоўцаў, але і да продкаў цяперашніх беларусаў. І ў гэтым нічога дзіўнага няма, бо яшчэ ў даўнія часы, напрыклад, у XIII ст. "было звычаем сваіх ворагаў называць беззаконнымі, паганымі, нехрышчонымі, язычнікамі незалежна ад таго, былі ці не былі яны такімі" (М.І.Ермаловіч). Зразумела, што падобныя словы ўжываліся і да хрысціян не толькі XIII ст., але і пазнейшых.

Нашы продкі гралі настолькі важную ролю ў ВКЛ, што іх называлі ліцьвінамі не толькі суседнія народы (рускія, украінцы, палякі, немцы), але і этнасы, што знаходзіліся ад нашай зямлі куды далей (шведы, фіны, чэхі і інш.). Болей за тое, нашых продкаў маглі называць ліцвінамі не толькі небалты, але і балты (заходнія літоўцы), бо добра вядома, што жамойцы да XIX ст. сябе не называлі літоўцамі. Аднак тут галоўнае тое, што яшчэ ў XIX ст. заходнія беларусы (Слонімскі, Наваградскі і інш. паветы) сябе вызначалі як ліцьвіны, і многія з'явы беларускай (пераважна заходнебеларускай – А. Л.) культуры папярэдніх стагоддзяў называліся літоўскімі (літоўскі конь, літоўская саха, літоўская барана, літоўскі боршч, літоўка-каса кароткая для касьбы ў лесе паводле ўжо фабрычных нумароў мела нумар 7, літоўская мова і інш).

Такім чынам, хто быў гаспадар у ВКЛ, добра ведалі шматлікія па колькасці, жыццяздольныя, энергічныя і дзяржаватворчыя народы, якія нярэдка ўмешваліся ва ўнутраныя і знешнія справы нашай дзяржавы вялікага Княства.

Заўважым, што з назвай "Літва", "літоўскі" тут адбылося тое самае, што з назвамі "Лівонія", "лівонскі", "Прусія", "прускі". У XIII-XУI стст. Лівонія была нямецкім гаспадарствам, хаця ў ёй і жыло шмат ўграфінаў – ліваў. Кіравалі ж дзяржавай лівонцы-немцы, а не ліві-угра-фіны. У XIII-XУI стст. Прусія была дзяржавай нямецкай, хаця рэшткі прусаў-балтаў яшчэ жылі на яе тэрыторыі ў гэты перыяд. Гаспадарамі ж, як і ў папярэднім прыкладзе, былі немцы-прусакі, а не балты-прусы.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

# "Размаўляем па-беларуску"

У верасні гэтага года ТБМ праводзіла месячнік **"Размаўляем па-беларуску"**. Я вырашыла распытаць 1-га намесніка старшыні ТБМ **Людмілу Дзіцэвіч** пра вынікі гэтай акцыі, і вось пра што даведалася:

***- Калі ўзнікла ідэя правядзення месячніка "Размаўляем па-беларуску"***

- Такія ідэі ўзнікалі даўно, іх было некалькі.

Ва ўсякім разе ў 1996 г. я прапаноўвала падобны месячнік. Але тады быў вельмі моцны псіхалагічны ціск на людзей. Бо беларусізацыя пачала спыняцца. І за карыстанне беларускай мовай можна было атрымаць па галаве. Таму тады ініцыятыва не ажыццявілася, а цяпер, калі страх улёгся, беларусы пачалі менш баяцца, пасмялелі. Раней многія доўгі час лічылі, што беларуская мова грубая, "калгасная", нікому не патрэбная. За годы беларусізацыі вырасла новае пакаленне. Многія павучыліся ў беларускіх школах, пачулі, на якой мове гаворыць парламент, Савет Міністраў і інш.

Яны ўбачылі, што беларуская мова патрэбна незалежнай Беларусі – і яны пачалі ганарыцца ўласнай дзяржавай і мовай. І за мяжой, куды гэтыя маладыя людзі пачалі ездзіць: то на аздараўленне, то на вакацыі- яны ўбачылі, што толькі мова вылучае іх сярод ўсіх савецкіх, якіх за мяжой называлі рускімі. Для замежніка і грузін, і армянін, і эстонец, і украінец былі рускімі, бо з Савецкага Саюза. Але з 90 –га года і грузін, і армянін, і эстонец, і украінец набылі сваю нацыянальную мову і ўпарта цяпер яе трымаюцца, што нельга сказаць пра беларусаў. Мы набылі мову, але ў 1995 годзе, на рэфэрэндуме, амаль прамянялі яе на рускую. І моладзь зразумела, што за мяжой з рускай мовай мы – рускія, таму яна набыла жананне карыстацца сваёй мовай. Таму ідэя правесці месячнік "Размаўляем па-беларуску" у верасні 2002 года ўпала на падрыхтаваную глебу. Грамадства, асабліва маладое пакаленне, ужо гатова гэтую ідэю рэалізоўваць.

***- Скажыце Людміла Мікалаеўна, як прайшоў месячнік, якія яго вінікі?***

- Сама ідэя месячніка не азначае, што па-беларуску павінны былі гаварыць усе. Вельмі многія нават і не чулі пра яго, хоць рэклама была шмат дзе размешчана, але ўсім пачуць гэта і не магчыма. Смешна, калі нейкую справу робіць 99,9 жыхароў краіны. Гэта нерэальна. І вынікі месячніка ў тым, што сябры ТБМ разнеслі ідэю, паведамілі знаёмым, выкладчыкі і настаўнікі запрасілі сваіх вучняў і студэнтаў ўключыцца ў месячнік. Актыўна ўдзельнічалі студэнты Тэхналагічнага універсітэта, якія не толькі гаварылі па-беларуску, але і правялі апытанне жыхароў сталіцы па моўных праблемах, студэнты БДУ культуры апублікавалі на старонках газеты "Навы час" інфармацыю пра ступень свайго ўдзелу ў месячніку, далі пэўныя парады па лепшым правядзенні наступных месячнікаў. У месячнік уключыліся студэнты Лінгвістычнага універсітэта, педкаледжа № 1, студэнты Палітэхнічнага універсітэта і многія іншыя. Мова стала гучаць на вуліцах часцей, што і было мэтай гэтай ідэі. Мала таго, моладзь прапаноўвала працягнуць месячнік. Так была пададзена прапанова ў кастрычніку спяваць па-беларуску, у лістападзе танчыць, у лютым кахаць, калі мы ўсе будзем адзначаць дзень св. Валянціна. І не важна, што на сёння мы не можам дакладна сказаць, як мы будзем танчыць ці кахаць па-беларуску, бо спачатку нараджаецца ідэя і, калі яна добрая, то абавязкова рэалізуецца.

***- А што ж мы будзем рабіць па-беларуску ў снежні і іншых месяцах?***

- Прапанаваў больш чым трэба. У асноўным іх падае моладзь. Калі праходзілі сустрэчы рэдактара газеты "Новы час" Алены Анісім са студэнтамі, то гучалі прапановы і пісаць па-беларуску, і купляць па-беларуску, і марыць па-беларуску, і есці па-беларуску, і падпісвацца на беларускія выданні, і, нават, маўчаць па-беларуску. Мушу заўважыць, што апошняе мы рабілі на працягу некалькіх стагоддзяў даволі дасканала, і таму лічу: хопіць намаўчаліся, А ў снежні, там жа і Каляды і Новы год, то можна і гатаваць па-беларуску, і есці беларускае і шмат чаго другога. Як трапна смяяліся вясковых матулі са сваіх дзяцей ў 60-х і 70-х гг., калі тыя прыязджалі з горада ў вёску з "рюской" мовай. Яны казалі: Гарадскіх булачак наеўся, то ўжо язык цісне". Я думаю, рускай мовы мы ўсе наеліся. Самая пара вяртацца да сваёй бульбачкі. Яна такая ж дасканалая, еўрапейская, як і англійская potatoю.

***- А ці былі якія перашкоды ў правядзенні месячніка?***

- Як на маё здзіўленне, то абсалютна не. Больш за тое адчувалася спрыянне. Ва ўстановах, дзе я бывала ў верасні, сутыкалася з тым, што чыноўнікі ведаюць пра месячнік вельмі прыхільна да яго ставяцца. Абсалютна кожны з іх шкадаваў, што мы забыліся на сваю мову, некаторыя ўспаміналі, як вучыліся ў беларускай школе. Яны імкнуліся гаварыць са мной па-беларуску і радаваліся, як дзеці, калі гэта цалкам удавалася. Гэта паказвае, што глеба для росту папулярнасці беларускй мовы сярод чыноўніцтва таксама падрыхтаваная. А калі казаць пра звычаі людзей, то я ўжо даўно прывыкла, што маю беларускую мову людзі і ў транспарце на вуліцы і ў краме і на пошце ўспрымаюць вельмі дабразычліва Мне могуць падарыць кілаграм яблык за беларускую мову, праехаць са мной у трансарце лішнія прыпынкі, каб пагаварыць па-беларуску, абслужыць без чаргі. І ў гэтым я бачу, як прачынаецца беларус, як хоча далучыцца да сваёй прасторы, і ТБМ у гэтым дапамагае.

***Гутарыла Ірына Секержыцкая.***

# Сапраўдныя студэнты

15 лістапада ў БДУК адбылося пасвячэнне ў студэнты 139 групы ФБІС, спецыялізацыі беларуская мова і літаратура. Асноўную частку праграмы выконваў другі курс, 239 група. Разам са студэнтамі выступалі і выкладчыкі, куратары груп Алена Шунейка і Людміла Дзіцэвіч. З універсітэтам першакурснікаў пазнаёміла Ірына Кажаноўская. Яна распавяла, у якім кабінеце можна знайсці кіраўніцтва, дзе знаходзяцца асноўныя кафедры факультэта. Гумарэскі пра выкладчыкаў кафедры беларускай мовы і літаратуры прачыталі Алена Пракопчык і Кацярына Яўмененка. Затым спадарыні А. Шунейка і Л. Дзіцэвіч праспявалі цудоўную песню пра Беларусь. Трэба адзначыць і выступлене Вольгі Чудзікавай, пасля маналогу якой многія з прысутных праслязіліся. А Таццяна Арлоўская расказала ўсім прысутным пра значную частку студэнцкага жыцця, інтэрнат. Дала якасныя парады навічкам. Алена Пісарэнка – кіраўнік творчай суполкі "БУКет" запрасіла ўсіх "талентаў" на чарговае паседжанне.

Сваё выступленне 239 група скончыла песняй А адказнае слова належала першаму курсу. Яны коратка расказалі пра кожнага студэнта, падзяліліся сваімі вершамі і песняй.

Напрыканцы сустрэчы выказала жаданне выступіць Ала Іванаўна Фядорына – намеснік дэкана па выхаваўчай рабоце. Яна пажадала ўсім поспехаў, добра ўладкавацца ў жыцці, дала запрашальныя белеты ў тэатр.

І зноў гучала песня, якая з'яднала выкладчыкаў і студэнтаў. Цяпер 139 група БУК – сапраўдная студэнцкая група.

***Ірына Секержыцкая.***

